ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

# ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

3 ЛІСТАПАДА 1995 г. № 44 (3816) Кошт 2 500 руб.

## НАЦЫЯНАЛІЗМ ЯК КАНСТРУКТЫЎНАЯ СІЛА

***Юры ХАДЫКА: "І апошняю крыніцаю гэтага антыдэмакратычнага ўплыву застаецца расійскі імперыялізм. У гэтым сцвярджэнні няма ніякай крыўды для вялікага рускага народа, бо ён, як і іншыя народы царскай Расіі, а затым бальшавіцкай імперыі, быў заложнікам палітыкі сваіх кіруючых колаў".***

**4**

## ПІСЬМЁНЫ НА ПЯСКУ

***Валерый РАЕЎСКІ: "У любыя часы, як бы мякка ні сцяліла ўлада, мастак заўжды стане ў апазіцыю ёй. Так атрымліваецца. Так прызначана. Так ураўнавана, ці што. Мо таму Карл Маркс так паважаў Шэкспіра?"***

**5**

## "Я СТАНОЎЧЫ ГЕРОЙ НАШАГА ЧАСУ"

***Аляксандр ЛАБУШ: "Ні ў жыцці, ні на сцэне беларусу ўсё яшчэ не выпадае магчымасці зрабіцца паўнакроўным, здаровым, прапагандаваць свой лад жыцця, свае каштоўнасці, светаўспрыманне... не жартам, не ахвярна, не з іроніяй".***

**7**

## ВЫБРАНАЕ З УСПАМІНАЎ

***Тадас ІВАНАЎСКАС: "Цяперашні чалавек другі — тут мімаволі ўспомніш, што казалі яшчэ ў Рыме: чалавек чалавеку воўк... Калі ты гаворыш з другім чалавекам, то павінен добра падумаць над кожным сваім і яго словам, каб не зрабіць шкоды сабе і, магчыма, другім".***

**14—15**





# ПОБАЧ І РАЗАМ З КУПАЛАВЫМ

Нагоды напісаць пра тэатр і цяпер трэба... шукаць. Заняць тэатральнаю тэмаю восем лімаўскіх палос паспрыяў юбілей Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Сямідзесяціпяцігадовы. (Дарэчы, сам юбілей, які прыпаў на 14 верасня, "ЛіМ" ужо адзначыў. N 37). Натуральна, без інтэрв'ю з Валерыем Раеўскім, ягоным мастацкім кіраўніком, не абышліся і мы. А потым, пасля нянаскіх ужо інтэрв'ю, даведаліся: сярод усіх жаданняў мастацкага кіраўніка самае-самае ўжо спраўдзілася — увага прэзідэнта. Прэзідэнт падпісаўся пад словамі пра тое, што многія спектаклі тэатра зрабіліся сапраўднымі сцэнічнымі шэдэўрамі ды ўзнялі яго на ўзровень лепшых еўрапейскіх тэатраў. Беларускія крытыкі цалкам, мяркую, падпісваюцца пад гэтымі словамі прэзідэнта. Як падпісваюцца пад ягоным пажаданнем калектыву тэатра: пошукаў яму ды мастацкіх адкрыццяў...

"ЛіМ" жадае гэтага ж самага і ўсім без выключэння тэатрам Беларусі: акадэмічным і студэнцкім, абласным і з чарнобыльскай зоны... Бо калі шукаюць ды адкрываюць яны, дык "акадэміі эстэтычнага выхавання чалавека" проста наканавана акумуляваць "на сцэне самабытны мастацкі талент народа". Такім чынам, у першым, але, веру, не апошнім спецыялізаваным тэатральным лімаўскім выпуску прадстаўлены яны, простыя і пераканаўчыя — тэатры. Так бы мовіць, паводле агульных пошукаў. Побач і разам з Купалавым.

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

*На здымку: купалаўцы А. ЛАБУШ і З. БЕЛАХВОСЦІК у спектаклі "Блакітная ружа".*

*Матэрыялы, прысвечаныя спектаклю, чытайце на стар. 7.*

# ЛіМ КОЛА ДЗЁН

**_Чым бліжэй выбары, тым менш надзей, што яны адбудуцца. Бо набліжаюцца яны яшчэ больш ціхаю — мяккаю і нячутнаю — хадою, чым папярэднія, вясновыя. Да выбараў у Расіі ўдвая больш часу, а Расія ўжо віруе, ужо бурліць. У нас жа — балотная ціша. Нават жабы маўчаць, як рыбы. Маўчыць афіцыйная прэса, маўчаць радыё і тэлебачанне. Не відаць па гарадах і вёсках плакатаў "Усе на выбары!" Нават дату іх і то, пэўна, не ўсе ведаюць. Праўда, да прамога закліку прэзідэнта не ісці на выбары, як тое было вясною, пакуль не дайшло, але ж — яшчэ не вечар..._**

## ЦЫТАТЫ ТЫДНЯ

"... Выказванні кіраўніка дзяржавы аб нежаданні выконваць Канстытуцыю і законы, знявагі і абразы ў адрас іншых галін улады, і перш за ўсё ў адрас Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, абяцанні ўвесці на Беларусі "прамое прэзідэнцкае праўленне" сведчаць аб тым, што ў краіне пачаўся працэс разбурэння асноў прававой і грамадскай стабільнасці.

Груба парушаючы канстытуцыйныя правы грамадзян, захопліваючы паўнамоцтвы іншых самастойных галін улады, прэзідэнт паслядоўна знішчае любыя праявы іншадумства і крытыкі ў свой адрас. Аб гэтым сведчыць і адмова прадставіць справаздачу па выкананні бюджэту, прамыя пагрозы і ціск на дэпутатаў Вярхоўнага Савета, стварэння ўмоў, каб чарговая сесія Вярхоўнага Савета не адбылася, знявага Канстытуцыйнага суда і яго рашэнняў, прамое ўмяшанне ў дзейнасць гэтага незалежнага органа. Абуральным і беспрэцэдэнтным для дэмакратычнай прававой дзяржавы, якой мы сябе абвясцілі, з'яўляецца факт забароны прамога тэлеэфіру для выступлення Старшыні Вярхоўнага Савета, сістэматычнае грубае ўмяшанне ў сферу дзейнасці сродкаў масавай інфармацыі, пазбаўленне грамадзян канстытуцыйнага права на атрыманне поўнай і аб'ектыўнай інфармацыі."

*(Са "Звароту Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.")*

## МЕРАПРЫЕМСТВА ТЫДНЯ

Сёння адбудзецца сход 119 дэпутатаў Вярхоўнага Савета XIII склікання. Можна толькі гадаць пра мэту яго правядзення і вынікі. Займацца ж нейкімі прагнозамі — позна. Зразумела адно: гэтае "мерапрыемства" займае не апошняе месца ў прэзідэнцкай тактыцы, скіраванай на дасягненне стратэгічнай задачы — адзінаўладдзя. Шкада, што ў дэпутатаў новага парламента не хапіла цярпення пачакаць нейкі месяц да заканчэння выбараў, і яны распачынаюць сваю дзейнасць з падскакання галіны (улады), на якой сядзяць.

## ПАРАДОКС ТЫДНЯ

"Работаем на будущее нации", — гэтымі словамі віцэ-прэм'ера ўрада Беларусі Уладзіміра Русакевіча назваў сваё інтэрв'ю з ім карэспандэнт "ЗЮ" (31 кастрычніка г.г.). Так і хочацца спытаць: "Якой нацыі?" Бо пасля таго, што зроблена за апошнія гады ў галінах культуры, адукацыі, навукі, аховы здароўя Беларусі (а менавіта за гэтую сферу грамадскага жыцця і адказвае ў нашым урадзе У. Русакевіч), сцвярджэнне гэтае адносна нацыі беларускай выглядае ці не блюзнерскім... Зрэшты, словы "Беларусь", "беларускі", "краіна", "дзяржава" у названым інтэрв'ю нават не згадваюцца...

## УГОДКІ ТЫДНЯ

Мяркуючы па паведамленнях чатырох расійскіх тэлеканалаў, у Расіі даволі шырока адзначаны Дзень палітвязняў і ахвяр рэпрэсій. Дыктатура пралетарыяту і таталітарызм дорага каштавалі ўсім народам былой дзяржавы-монстра. Але ў нас угодкі былі замоўчаны: у хаце павешанага пра вяроўку не гавораць?

## ЛІЧБА ТЫДНЯ

Каб захаваць і забяспечыць праслаўтую роўнасць усіх кандыдатаў у дэпутаты, кожнаму з іх на прадвыбарчую агітацыю будзе выдзелена па 600 тысяч рублёў. Нават мінулай вясной гэта былі ўжо смешныя грошы, а сёння, калі пры сталым доларах і вялай інфляцыі цэны толькі на друкарскія паслугі і транспарт выраслі ў некалькі разоў, гэтую суму інакш як здзеклівай ці абразнай і назваць нельга, бо той, хто надрукуе больш за тысячу ўлётак са сваёй праграмай, рызыкуе ў яе не ўкласціся. Вядома, бюджэт нашай дзяржавы не гумавы, а "роўнасць" захаваць так хочацца... Каб дэпутаты, абраныя за 600 тысяч, не абвінавачвалі потым сваіх калег, абраных зараз за большыя грошы, у нелегітымнасці і недзеяздольнасці.

## НАМЕР ТЫДНЯ

Прэзідыум Савета прафсаюза работнікаў аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання прыняў рашэнне аб падрыхтоўцы да агульнадзяржаўнай масавай акцыі пратэсту, якую намечана правесці ў снежні гэтага года. Нагадаем, што ў склад галіны ўваходзяць такія гіганты беларускай прамысловасці, як МТЗ, МАЗ, Мінскі маторны завод, "Гомсельмаш", МаАЗ і інш. Галоўныя патрабаванні рабочых — "запусціць" заводы на поўную магутнасць, павышэнне заробку і наданне яму статуса першачарговай выплаты. Хоць і аднясенне страйку на гэтакі далёкі і халоднаэімовы тэрмін папахвае простым шантажом уладаў, усё ж, здаецца, прыкметы глыбокага крызісу, па якіх "нізы" не хочуць, а "вярхі" не могуць больш жыць і кіраваць па-старому — навідавоку.

## БЯССІЛЛЕ ТЫДНЯ

Пракуратура краіны ў рэшце рэшт спыніла расследаванне справы па факту збіцця народных дэпутатаў у авальнай зале Вярхоўнага Савета Беларусі ноччу 12 красавіка г.г. Спыніла ў сувязі "з неўстаноўленнем асоб, якія падлягаюць прыцягненню да адказнасці ў якасці абвінавачваемых". Следствам даказана, што сам факт збіцця дэпутатаў меў месца, але канкрэтных вінаватых у гэтым устанавіць не ўдаецца... Дарэчы, следчыя так і не змаглі прагледзець знакаміты відэазапіс тых падзей, які памятаеце, прэзідэнт абяцаў "пракруціць" па тэлебачанні. Надзея на тое, што "згублены" відэазапіс будзе знойдзены і вінаватыя пакараны, усё ж застаецца. Праўда, адбыцца гэта можа толькі пры іншых уладах.

## АДЧАЙ ТЫДНЯ

50-гадовы наладчык Брэсцкага радыётэхнічнага завода, Віктар Ганчарук 26 кастрычніка прыйшоўшы, як звычайна, на сваё рабочае месца, абкруціў рукі аголенымі электрычнымі правадамі і ўключыў ток... На гэты жахлівы, адчайны крок яго вымусіла сітуацыя на заводзе, на якім ён адпрацаваў 26 гадоў. З чэрвеня Віктар Ганчарук не атрымліваў заробку, а тыдзень назад убачыў загад аб сваім скарачэнні... Хто адкажа за гэтую бяссэнсавую, нікому не патрэбную смерць, калі не перад людзьмі, дык перад Богам?



# ДНІ ЮБІЛЕЙНЫЯ, ДНІ РАБОЧЫЯ

У мінулы чацвер у памяшканні Нацыянальнага Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы адбылася прэс-канферэнцыя, на якой ішла гаворка пра мерапрыемствы, што павінны адбыцца ў сувязі з 75-годдзем праслаўленага калектыву, пра паўсядзённыя справы купалаўцаў, закраналіся праблемы, якія стаяць сёння перад тэатрам і ўвогуле перад нацыянальнай культурай.

Адкрыў прэс-канферэнцыю намеснік міністра культуры і друку Рэспублікі Беларусь У. Рылатка. Выступілі дырэктар тэатра І. Вашкевіч, доктар мастацтвазнаўства Р.Смольскі. Адзначалася, што трупа купалаўцаў сёлета папоўнілася васьмю маладымі акцёрамі, нядаўнімі выпускнікамі Акадэміі мастацтваў, і кожны з іх можа праявіць сябе ў калектыве.

Перад журналістамі выступілі і самі акцёры. У прыватнасці, народная артыстка Беларусі З.Бравaрская адзначыла, што тэатр — гэта лёс людзей, аб'яднаных вакол самога жывога цуду, назва якому і ёсць тэатр. Бясконца хочацца працаваць, удасканальваць сваё майстэрства, жадаецца, каб наперадзе было нешта новае, цікавае, сонечнае — у сэрцы, і ў душы. Таму я павінна сказаць шчыра, — падкрэсліла З. Браварская, — свята я люблю, але яшчэ больш люблю будзённую, творчую, складаную, паўсядзённую працу ў тэатры. Гэта само жыццё, без гэтага свабодна дыхаць немагчыма. І сонейка не так свеціць, і зоркі не гэтак гараць на небе, калі ў цябе няма надзеі на творчую працу. Свята пройдзе, але галоўнае — каб збылося тое, пра што мы марым, пра што думаем на заўтрашні дзень. Мы павінны памятаць: па ўзроўні нашага тэатра вызначаецца ўвогуле ўзровень культуры Беларусі.

Народная артыстка Беларусі М.Захарэвіч прызналася, што напісала ўспаміны пра купалаўцаў старэйшага пакалення, пра тых, хто аказаў уплыў і на яе творчы лёс. Пра К. Саннікава, які для яе стаў сапраўдным настаўнікам... Пра Л. Ржэцкую, якая была быццам маці, а таксама пра Л. Рахленку, Б. Платонава, У. Дзядзюшку. Гэтыя імёны трэба памятаць. Памятаць, бо яны — частка гісторыі нашага беларускага тэатра. Юбілеі і патрэбны таму, што дазваляюць высвеціць кожнага творцу, паглядзець на яго і яго дасягненні праз свайго роду павелічальнае шкло.

Сваімі развагамі пра шлях тэатра, асабісты лёс падзяліліся народны артыст СССР Г. Гарбук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР В. Манаеў.

Галоўны рэдактар "Тэатральнай Беларусі" А.Сабалеўскі пазнаёміў прысутных са зместам чарговага, пятага за сёлетні год нумара часопіса, а ён цалкам прысвечаны 75-гадоваму шляху, пройдзенаму купалаўцамі. Дарэчы, ці не ўсе, хто выступаў на прэс-канферэнцыі, былі аднадушныя ў ацэнцы: атрымалася свайго роду невялікая энцыклапедыя тэатра імя Я.Купалы.

Прэс-канферэнцыя стала адначасова і прэзентацыяй дзвюх кніг пра знакамітых купалаўцаў. Адна з іх "Глеб Глебаў" напісана доктарам мастацтвазнаўства А. Сабалеўскім і выйшла ў выдавецтве "Навука і тэхніка", а другая з'явілася літаральна ў гэтыя дні ў выдавецтве "Полымя" "З жураўлінай чарады" маладога даследчыка А. Астапенкі, — расказ пра народную артыстку СССР Галіну Макараву. Кніга значыцца ў тэматычным плане "Полымя" на 1996 год. Але, як сказаў у час прэзентацыі дырэктар выдавецтва М. Івановіч, калектыў паруліўся (і, думаецца, правільна зрабіў), каб яна выйшла акурат напярэдадні юбілею тэатра. Міхаіл Антонавіч выказаў і прапанову: калі б дапамагло Міністэрства культуры і друку, дык можна было б паруліцца аб выпуску міжвыдавецкай серыі, прысвечанай знакамітым беларускім акцёрам і рэжысёрам.

Выступілі і самі аўтары кніг — А. Сабалеўскі і А. Астапенка. А затым юбілейныя мерапрыемствы былі прадоўжаны ў тэатральнай зале, дзе адбыўся прагляд спектакля "Крык на хутары".





*На здымках: у час прэс-канферэнцыі перад адкрыццём "Фестывалю сяброў"; купалаўцы В. Тарасаў, З. Стома, С. Нікіпелава.*

*Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БЕЛТА*

Варункі

# ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ АПАЛЬНАГА ГЕНЕРАЛА

У аўторак, 31 кастрычніка, у рэдакцыі "Белорусской деловой газеты" адбылася прэс-канферэнцыя апальнага генерала, былога міністра ўнутраных спраў Юрыя Захаранкі.

Сп. Захаранка трымаўся перад журналістамі ўпэўнена і нязмушана, хаця расказваў пра рэчы невясёлыя. Ён зноў паўтарыў, што дзеянні прэзідэнта Лукашэнкі ўтрымліваюць склад злачынства, прадугледжаны артыкуламі 166, 167 і 128 Крымінальнага кодэкса РБ.

Спачатку былы міністр распавёў наконт тых трох прычын, з-за якіх, па словах прэзідэнта, Захаранку і знялі.

Першая. Злоўжыванне падчас капітальнага рамонту філіяла гатэля МУС. У віну міністру было пастаўлена тое, што рамонтам займаліся камерцыйныя структуры. На гэта Захаранка адказаў, што зараз гэтая ж самая фірма займаецца рамонтам асабістай рэзідэнцыі прэзідэнта.

Другая. Асабняк Захаранкі на Заслаўскім вадасховішчы за 10 млрд. Па словах былога міністра — гэты асабняк не ягоны асабісты.

Трэцяя прычына. Вобыск у кватэры прэм'ер-міністра, які, нібыта, быў праведзены з дазволу Захаранкі. Сам жа Юрый Мікалаевіч гаворыць, што ў гэты час яго ўвогуле не было ў Беларусі, ён быў на нарадзе міністраў МУС у Тбілісі.

Далей. В. а. міністра Шэйман нібыта адразу пасля адстаўкі Захаранкі арыштаваў дваццаць чыноўнікаў МУС. На гэта сп. Захаранка сказаў, што такога не было, а сам ён за гэты год з шэрагаў МУС звольніў 538 чалавек.

На пытанне пра вядомы стрэл у Лёзне Захаранка адказаў, што ягоная думка не супадае з афіцыйнай версіяй. А афіцыйная версія пацвердзіла, што замах быў.

Былы міністр балатуецца ў парламент у Гомельскай Цэнтральна-Пушкінскай акрузе, дзе ён будзе сапернічаць з шасцю прэтэндэнтамі на дэпутацкае крэсла.

На пытанні ж пра збіты амерыканскі шар, пра адмоўнае выказванне Захаранкі ў адрас міністра замежных спраў Нямеччыны К. Кінкеля, пра гвалт над забастоўшчыкамі метро і дэпутатамі апазіцыі, Юрый Мікалаевіч адказаў даволі цьмяна, спасылаючыся на тое, што ў поўных выпадках у яго не было інфармацыі, ці яго да яе не дапускалі, а ў іншых — яго проста не было ў Мінску.

Наконт кадравых перастановак, якія робіць прэзідэнт, спадар Захаранка зазначыў, што яны вядуць Беларусь у балота.

Так што перадвыбарчая барацьба былога міністра, які хоча стаць дэпутатам, пачалася.

**Аляксей ШЭІН**

З нагоды

# ДЗЯДЫ БУДУЦЬ ДЗЯДАМІ...

Гэты нумар газеты пабачыць свет, калі ўжо пройдуць Дзяды і будзе пярэдадзень чарговай гадавіны апафеозу Кастрычніцкага перавароту — штурму Зімняга палаца. Дзіўна спалучыліся ў нашым календары дзяржаўныя святы: Дзяды, Каляды, Дзень незалежнасці і 7 лістапада, 23 лютага, "Дзень воіна-інтэрнацыяналіста". Нібыта дзве краіны — у адной: у кожнай свае асобныя герб і сцяг, гісторыя і нават геаграфія: адна краіна — у цэнтры Еўропы, другая — на ўскраіне Расіі.

Пачынаючы з 1988 года Дзяды ўспрымаюцца *не столькі як сямейнае* свята, дзень ушанавання памяці продкаў, але як свята выразна беларускае, нацыянальнае, як дзень *супрацьстаяння грамадства антынацыянальнай уладзе*. Так атрымалася, што традыцыйныя Дзяды — для патрыётаў, а ролю "камуністычных дзядоў" выконвае 7 лістапада, калі "савецкія людзі" памінаюць загінуўшых "за ўладу Саветаў".

Тое, што сямейнае свята палітызаванае, — кепска. Тое, што да магіл продкаў прыходзяць з нацыянальнымі сцягамі, пад "Пагоняй" — мабыць, у прынцыпе, ненармальна. Ненармальна для нармальнай краіны.

Але яшчэ больш ненармальна тое, што беларушчына ў Беларусі разглядаецца ўладамі як крымінал. Таму і праяўляецца беларускі нацыянальны дух *у не вельмі кананічных формах*. Калі-небудзь будзе інакш: Дзяды будуць проста Дзядамі, а 7 лістапада з дзяржаўнага *свята зноў стане асабістай справай* адыходзячых у гістарычны нябыт бальшавікоў. А пакуль нас усіх упарта цягнуць у "светлую будучыню", дзе мы ўжо былі.

Праўда, камунізм так лёгка спалучаецца з расійскай імперскай ідэяй (як чырвоная зорка і арол-мутант на афіцэрскай фуражцы), што міжволі думаеш: навошта было ганяць па Няве "Аўрору", штурмаваць Зімні, калі ўсё вярнулася да пачатку? У цэнтры Масквы адбудоўваюцца славутыя праваслаўныя храмы, у тым ліку і храм Хрыста-Збаўцы. Прысутнасць замежнага капіталу адлюстравана ў шыльдах і вітрынах крамаў. А самая папулярная шыльда на вуліцах вялікіх і малых гарадоў СНД — "Абмен валюты".

Мо сапраўды маюць рацыю тыя гісторыкі, якія сцвярджаюць, што ў кастрычніку 1917 года Расійская імперыя не была знішчана, як падалося напачатку, а атрымала новы імпульс праз наркотык "сусветнай рэвалюцыі", трансфармаваўшыся ў Савецкі Саюз з царом-генсекам на чале? Нездарма шмат хто з расійскіх эмігрантаў той, яшчэ першай, паслякастрычніцкай хвалі ўспрыняў дэмантаж СССР як асабістую трагедыю, нібыта яны прысутнічалі пры пахаванні сваёй, імперскай, Расіі. Хай хоць чырвоная, але імперыя!

І 7 лістапада двухгаловыя арлы і сярпы-молаты будуць у згодзе лунаць над натоўпам.

*Напярэдадні Дзядоў Беларуская асацыяцыя ахвяр палітычных рэпрэсій правяла ў Курапатах мітынг. На мітынгу сведкі і ахвяры тых жахлівых гадоў запалілі памінальныя свечкі па загінуўшых.*
*Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ, БЕЛТА*

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

# ДЗЯДОЎСКІ ПАДМУРАК

Існуе павер'е, што на Дзяды душы нашых продкаў залятаюць у нашы хаты, далучаюцца да нашае святочнае вячэры, глядзяць на сваіх нашчадкаў, назіраюць за намі — ці правільна мы жывём, ці робім мы тое, што было б ім даспадобы. Гэта ўсё магчымае, калі ў вас ёсць свой дом, у які можна запрасіць продкаў.

А што, калі гэтага дому няма? *Тады губляецца сувязь з дзядамі, а* значыць, і пачуццё адказнасці перад імі.

Ці ёсць у нас, беларусаў, свой дом, *свая сапраўдная дзяржава*, у якой мы б адчувалі адзінства паміж сучаснікамі і сваю духоўную еднасць з тымі, хто адышоў ад нас? Здаецца, не. *У нас ёсць толькі збітая з фанеры РБ.*

Пра Беларусь кіраўніцтва і дзяржаўныя чыноўнікі любяць паўтараць: "*Наша маленькая республика бывшего СССР*". Ды якая ж яна маленькая?! Нас, канешне ж, не параўнаць з Расіяй, але калі глянуць у іншы бок, у Еўропу, то паводле колькасці насельніцтва й тэрыторыі мы сярэдняя еўрапейская дзяржава.

Што да перамены арыенціраў... Калі колькі год таму я ўяўляў на мапе Беларусь, дык, акрамя тэрыторыі нашае краіны, чамусьці, неяк сама сабою, уяўлялася неабсяжная і непадзельная прастора ад Брэста да Камчаткі. *Цяпер усё наадварот* — ад Іспаніі да Мсціслава.

Але такія змены адбыліся не ва ўсіх. І шмат хто з нашага кіраўніцтва ды *і з людзей "простых" не адчулі* (не захацелі, ці не змаглі адчуць), як недзе над намі, над раскіданым чужынцамі дзядоўскім гняздом, над "*маленькой республикой бывшего СССР*", лунае святая, светлая, нашая Вялікая Краіна Беларусь. Вялікая сваёй мінуўшчынай, сваім духам; *яна хоча быць з намі*. Але на старым падмурку, дзе раней стаяў наш дом, мы не збудавалі яшчэ нічога моцнага і трывалага. І не хочам будаваць...

Belarusians, go home! Янка, ідзі дамоў... Навошта табе бадзяцца прасторамі чужой імперыі? Пастаў новыя сцены, зрабі сабе сваё жытла — у цябе ёсць яшчэ ацалелы падмурак зруйнаванага дзядоўскага дому.

**Аляксей ШЭІН**

Антаніна ХАТЭНКА

## БЕЛЫ ПТАХ

**Дагарае душа. Дагарае**
**белай свечкай на чорнай зямлі.**
**Я чужынка ў прадзедавым Краі?**
**Хто жыццё маё тут запаліў?**

**Адбалела душа. Адбалела.**
**Белы дзень у калысцы начы.**
**Са скляпення змарнелага цела**
**адплывае агонь на спачын.**

**Пакідае душа. Пакідае**
**белы свет, белы снег, белы сад.**
**Лісце летаў маіх ападае**
**на счарнелы бацькоўскі пасад.**

**Шчыравала душа. Нітавала**
**крону-неба і дол-карані.**
**Балявала чужая навала,**
**перасекла ніты-прамяні.**

**Адлятае душа. Адлятае...**
**Белы птах каля чорнай мяжы.**
**Ці была ты, Айчына святая?**
**Міражы і крыжы. І крыжы...**



Вечарыны

# ЧЫННІК АДРАДЖЭННЯ

27 кастрычніка ў памяшканні філармоніі прайшоў урачысты вечар, *прысвечаны пяцідзесятым угодкам* Беларускай акадэміі мастацтваў. Падобныя імпрэзы ладзяцца згодна даўно распрацаванай рэжысуры, і чым вышэй ранг установы, якая святкуе свой юбілей, тым меншае поле імправізацыі. А "расслабіцца" можна ў кулуарах альбо на банкеце. Так заведзена.

Адкрыў вечарыну ўступным словам рэктар БелАМ Васіль Шаранговіч. Потым было зачытана віншаванне прэзідэнта РБ, былі віншаванні ад Вярхоўнага Савета і Кабінета Міністраў. На сцэну былі запрошаны прадстаўнікі першага выпуску. Зразумела, не ўсе, а тыя, каго здолелі *сабраць. Ад іх імя выступіла* Эльвіра Герасімовіч. Яна, дарэчы, у 1968—1984 гадах была рэктарам Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута. Сваю ALMA MATER віталі выхаванцы, чые імёны цяпер на слыху. У святочным вечары бралі ўдзел прадстаўнікі вышэйшых навучальных устаноў, кіраўнікі творчых саюзаў, тэатраў.

Віншавалі акадэмію госці з блізкага замежжа — досыць прадстаўнічая дэлегацыя мастацкіх ВНУ Масквы і Санкт-Пецярбурга (чамусьці не было гасцей з Украіны, Малдовы, краін Балтыі, хоць іх таксама запрашалі), пасольствы Італіі, Турцыі, Украіны, Чэхіі, мясцовыя і замежныя спонсары.

*Складвалася ўражанне*, што ўдзельнікі свята, цудоўна ведаючы рэальны стан культуры ў нашай краіне, добра ўсведамляючы, што на самай справе стаіць сёння за так званым клопатам аб Адраджэнні, дамовіліся хаця б адзін вечар не гаварыць "пра сумнае" — хай будзе свята і ніякай палітыкі! Нават сімволікі дзяржаўнай на сцэне не было. Бо "старую" (нацыянальную) вывешваць нельга, а новую (новаБССРаўскую) — ... Таму сцэнка-рэпрыза тэатра "Хрыстафор" (там таксама ёсць выпускнікі БелАМ) выклікала непрыемныя пачуцці. Сцэнка ўяўляла сабою брыдкую пародыю на вядомы эпізод "Тутэйшых" — спрэчку Усходняга і Заходняга вучоных. Толькі тут былі "нацыяналіст" і "камуніст". Адпаведна, адзін з бел-чырвона-белым сцягам, другі — з чырвоным. Праўда, назваць сцягам чырвонае палотнішча неакрэсленых прапорцый без традыцыйнай выявы сярпа і молата можна толькі з вялікай доляй умоўнасці... Так што абраза ў адрас патрыятычных сіл была вельмі акрэсленай, а ў адрас камуністаў, даруйце за каламбур, — бязадраснай.

Не будзем гаварыць аб "смеласці" тэатра "Хрыстафор", а вось што датычыць густу...

Другой недарэчнасцю святочнага вечара лічу адсутнасць *у зале журналістаў, што вядуць* культурніцкую хроніку ў найбольш уплывовых газетах і часопісах. Яны і пакрыўдзіцца могуць.

Але хопіць пра сумнае. Адным з кульмінацыйных момантаў свята было выступленне ансамбля "Харошкі". Калісьці гэты ансамбль зрабіў сабе імя тым, што адкрыў шырокай аўдыторыі малавядомыя пласты этнаграфіі, народнай культуры. Сёння "Харошкі" зрабілі крок з "этнаграфіі" ў "гістарызм". Калі на сцэне з'явіліся артысты ў тканых золатам беларускіх шляхецкіх строях (іх рабілі выпускнікі акадэміі) — гэта было захапляючае відовішча!

І на заключэнне вечара віншаванне акадэміі зачыталі артысты ў сцэнічных касцюмах з гістарычнай драмы часоў велічы Радзівілаў. Беларусь вяртае сваю, Богам дадзеную спадчыну. І Беларуская акадэмія мастацтваў, нягледзячы на ўсе цяжкасці — чыннік гэтага працэсу.

**П. ВАСІЛЕЎСКІ**

У РЭДАКЦЫЮ ГАЗЕТЫ "ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА"

Усім, хто павіншаваў мяне з 60-годдзем, мой нізкі паклон.

**Уладзімір ПАЎЛАЎ**

***Валерый РАЕЎСКІ, мастацкі кіраўнік Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, вядомы сваімі адметнымі думкамі і выказваннямі, якія не адзін сезон, бывала, вымагалі цытавання ўдзячнай тэатральнай грамадскасці, пытанняў дыпламаваных крытыкаў і высноў крытыкаў свойскіх, дамарослых, значыць — кіруючых. Апошнія былі і пайшлі ўпрочкі. А Валерый Мікалаевіч пагадзіўся сёння пракаменціраваць “свае думкі” для “ЛіМа”.***

# ПІСЬМЁНЫ НА ПЯСКУ

**“Калі ў кіруючай партыі няма альтэрнатывы, альтэрнатывай такой партыі мусіць быць мастацтва, перадусім — тэатр”.**

— Пачнём з таго, што я ніколі ні ў якіх партыях не быў, таму казаць такое права меў... Мо як ніхто іншы ў тыя часы. У любыя часы, як бы мякка ні сцяліла ўлада, мастак заўжды стане ў апазіцыю ёй. Так атрымліваецца. Так прызначана. Так ураўнаважана, ці што. Мо таму Карл Маркс так паважаў Шэкспіра? Што таму надта мулка было? Мастаку ці не заўжды зацесна, завузка ў рамках часу. Мастак не можа мець і не шукае сабе роўні... Таму тэатру супрацьпаказана дэмакратыя. Бо тэатр — сам сабе ўлада (як і сам па сабе!), ды яшчэ якая! Але без разумнае ўлады ні ў тэатры, ні тэатру існаваць немагчыма. Кароль, даводжу я часам, прымаў ад трупы Мальера, скажам, не адны ўсмешкі ды падзякі або ўхвалы. Кароль мусіў зацеміць, што ў любы момант у самым непрывабным персанажы публіка здатная ўгледзець ягоныя, каралеўскія рысы. Ну, скажам, ягоных наблізжаных, давераных, дворні. І — часцяком прымаў гэта. Хоць бы як непазбежнае зло...

**“Трэба радавацца таму, што ёсць...”**

— Так, гэта — з нагоды майго тэатра. Ён не ўпісваецца ні ў якія рамкі. Таму што — пакуль яшчэ жывы арганізм. Таму што ў пэўнай ступені выказвае, вылучае менталітэт свайго народа. Мастак — ад Бога (мяркую, таленавіты чыноўнік — таксама), а купалаўскі тэатр — адметная група людзей, якая стварае, фіксуе час, вострыць і ўзбуйняе... Якая піша на пяску. Тэатр увогуле — піша на пяску. Цяпер, праўда, застаюцца галасы, мізансцэны — на стужках, на здымках. Я аддаю перавагу кнізе. Але усё адно: усялякі мастак піша на пяску, бо мінуць стагоддзі, імгненні для вечнасці, і ад нашых галасоў ды мізансцэн нічога не застанецца. Нават сярод перавыдадзеных кніг ацалеюць адзінкі. Значыць, мы ўсе працуем, назапашваем нейкае няўгледнае “нешта”. Як мастак, я магу верыць толькі ў гэтае “нешта”. Іншае здрадзіць. Толькі вера дазваляе мне рабіць, ствараць, нават вера ў “нешта”... Я ж не канкрэтны, не пэўны ў сваёй творчасці, у сваім аддаванні. Тэатр — гэта назапашванне чагосьці, што, мабыць, трэба Космасу. Таму мы ніколі не вырашым нашых праблем да канца, — і гэта трэба Космасу. Таму, пакуль іншыя загадваюць, гвалцяць або скардзяцца, мы шукаем сутнасці паэзіі, якая ёсць бясконцасць. Мы ўсё адно жывём толькі верай. Экзістэнцыяльнае “нешта”, экзістэнцыяльная структура, мабыць, уласціва кожнаму мастаку. Ён абсалютна цвяроза бачыць або адчувае, што піша на пяску, але верыць, што не толькі камусьці для чагосьці спатрэбяцца ягоныя пісьмёны, але самому Стваральніку “кагосьцяў” ды “чагосьцяў” неабходна, каб жыў мастак. “Мы яшчэ ўбачым неба ў дыяментах!” — я магу, услед за Чэхавым, не прычакаць іх, але чакаць мушу...

**“Мы даўно змарнавалі значнасць ды прызнанне свайго тэатра...”**

— Таму што заўжды надта спрактыкавана ўмелі мардаваць сябе і сваіх аднадумцаў, паплечнікаў. Не паважаць, не захапляцца калегамі (маўляў, вучыліся разам, аднаму педагогу іспыты здавалі, чаго ад яго чакаць?). Самакрытычнасць ды сціпласць мусімець свае межы, каб не выдаваць на пародыю. Не ўмелі ацаніць тое, што мелі. Не ўмелі давесці адметнасці таго, што мелі. Нават падтрымкай, —



Расіі, балтыйскіх краін на фестывалях, — не здатныя былі распарадзіцца сабе на карысць. Вядома, што тэатр робіць не адзін толькі тэатр. Здатнасцю ў праяве ўгледзець падзею, а ў падзеі — з'яву або з'явішча. трэба авалодаць і рэжысёру, і крытыку, і газетнаму рэцэнзенту. Але толькі пэўнае становішча тэатра можа даць нагоду, каб такія здатнасці выявіліся ды запатрабаваліся. Тэатр прыніжаны, заціснуты між спартовымі навінамі ды прагнозамі надвор'я, тэатр на ўтрыманні па рэшткавым прынцыпе не выдае на значны. Не вымагае прызнання. Ён проста не хоча іх, пазбягае, баіцца. Ён нават не здатны падначаліць сабе атачэнне ды абставіны, не кажучы ўжо пра ўплыў на кагосьці ды штосьці. Як урокі, ён паўтарае і паўтарае свае спектаклі... Тэатр і школа, дарэчы, у маім разуменні, наўрад ці з'явы сумяшчальныя. Пад імем і сцягам Станіслаўскага ледзь не змарнавалі, ледзь не змардавалі ўвесь былы савецкі тэатр, кананізуючы адну ягоную школу. Не зважалі, што ў кожнага тэатра ёсць свой тон, свая музыка. Шмат у чым яны залежаць ад акустыкі, ад будынка, ад лідэра. Ад лідэравага светапогляду, светаўспрымання, ад здольнасці выявіць праўду жыцця і не зблытаць яе з праўдай мастацтва, суаднесці іх... Бо ў тэатры — свая праўда. Важна не дапусціць фальшу ў тэатральную праўду, выхаваць або выгадаваць у сваіх аднадумцаў (акцёрах) індыкатары на яе... Каб і самому часам не збочыць. Адчуванне вялікай праўды тэатра — не дурнога, не мёртвага, не пустога, а існага, дзе акцёр пачуваецца грамадзянінам, — гэта адна з умоў стварэння. Пачуванне грамадзянінам! У самым някрасаўскім сэнсе. Някрасаў не для Леніна гэта пісаў, не для рэвалюцыйнага слоўка. Вялікая грамадзянскасць тэатра спараджае слушны тэатральны тон... з якім пішуць на пяску і разумеюць гэта. У купалаўцаў ёсць свой тон, і да яго я таксама маю дачыненне.

**“Я ўвогуле не люблю тэатр.”**

— Калі па вялікім рахунку — я не люблю тэатр у ягоным жудасным безгустоўі, дробязнасці, драбязгавасці, праявах гвалтоўных, правінцыйных, жорсткіх. Думаю, існыя акцёры таксама не любяць яго — такім. Заадміністраваным. Заціснутым правіламі ды вымаганнямі. А што да адміністрацыі, дык яна мусіць любіць тэатр так, як колішнія вядомыя беларускія дырэктары Дорскі ды Няронскі. Яна мусіць не кіраваць, а класціся пад тэатр, класціся і трымаць тое, што здужае ўтрымаць, бо на чалавека творчага і так выпадае задужа шмат мітрэнгаў ды непатрэбных клопатаў. А я ў свае пяцьдзесят пяць гадоў тэатрам не стомлены, хоць сур'ёзна быў выбіты з каляіны хваробаю. Паліў, выпіваў, псаваў нервы сабе і людзям без дай прычыны, пахаваў маці... Раны гояцца цяжка, але гояцца. Між усім абавязковым і тэатральным. Сёння я ўжо адчуваю ў сабе дастаткова інтэлектуальнай энергіі...

**Валерыя РАЕЎСКАГА**
**выслухала і занатавала**
**Жана ЛАШКЕВІЧ**

# БОСЫ НА ГЛОБУСЕ

## ПРА ТОЕ, ШТО НЕ ЗАБЫВАЕЦЦА...

***Факт, вядома, не надта важкі. Не з тых, што варты быць занатаванымі ў летапісе купалаўскага тэатра. Але вельмі мне помніцца. Бо...***

Зрэшты, па парадку.

Меў гэты факт месца даўнавата ўжо, у сярэдзіне сямідзесятых, неўзабаве пасля прэм'еры ў купалаўцаў спектакля “Святая прастата” паводле п'есы Андрэя Макаёнка (потым аўтар даў п'есе другую назву — “Кашмар”). Сёння, на аддаленасці, ды пры зменах, што адбыліся за пражытыя пасля таго дзесяцігоддзі ў паглядзе нашым на шмат якія глабальныя з'явы, ясна: аснова і пафас п'есы, скажам так, выпрабавання часам не вытрымалі. Але божая іскра таленту, якая выблісквае нават не ў лепшым са створанага слынным драматургам, зырчыць і тут. Найперш у тым, які каларытны ў камедыі цэнтральны персанаж — Стары. На фабульным стрыжні — гэты дзед з беларускай вёскі становіцца ў сне не менш не больш, як прэзідэнтам найвялікшай і наймагутнай у свеце заакіянскай дзяржавы, — выяўляецца дасціпная, трохі капрызлівая, але мудрая, зычлівая да людзей дзедава натура. І артыст Генадзь Аўсянікаў, выконваючы ролю Старога, як гаворыцца на жаргоне закулісся, “купаўся” ў матэрыяле. Іграў са смакам, сакавіта, заразліва, штохвіліны выклікаючы выбухі дружнага рогату гледачоў.



Як амаль усё макаёнаўскае ў купалаўцаў, і “Святая прастата” стала прыкметнай падзеяй у культурным жыцці Мінска. Таму, калі да нас на рэспубліканскае радыё, дзе я тады працаваў, прыехала шаноўная госця з Берліна — галоўны рэдактар радыё на той час яшчэ далёкай ад знікнення з карты свету ГДР па раздзеле міжнароднай драматургіі фрау Урсула Эндэрле, са знакамітым старэйшым тэатрам Беларусі вырашана было пазнаёміць яе менавіта па гэтым спектаклі. А паколькі рэдактарам “тэатральнай дзялянкі” радыёвяшчальных праграм з Мінска быў я, то мне і даручылі, як калегу, сядзець з ёю ў глядзельнай зале кампаньёнам.

Высокаінтэлігентная, вельмі дасведчаная ў сваёй справе, немаладая нямецкая госця прыстойна гаварыла па-руску, збольшага разумела чэшскую і сербскую гаворкі, але ва ўлонні беларускага слова трапіла ўпершыню. І я меркаваў, што дзве гадзіны спектакля давядзецца мармытаць пераклад сцэнічных размоў — зразумела, адчуваючы на сабе незадаволенае касавуранне з суседніх крэслаў. Памыліўся. Толькі зрэдку адрывала падапечная вочы ад сцэны і запытальна пазірала на мяне: што, маўляў, такое дакладна сказана Старым ці Старому там на сцэне, з чаго зала скаланулася-зарагатала? За выняткам жа гэтых лічаных разоў яна, здавалася, не міргаючы, баючыся не заўважыць хоць найменшы штрышок, проста з дзіцячым захапленнем сачыла за перыпетыямі дзейства ў святле сафітаў і юпітэраў. Дзейства месцамі забаўна-бытавога, месцамі адкрыта плакатнага, месцамі фантастычнага. З гарэзлівым сівым хітруном у эпіцэнтры неверагодных падзей, што як па ўласным падворку шлёпаў босымі нагамі па глобусавым паўшар'і: месцам дзеяння фантасмагорыі аўтарскія рэмаркі пазначылі матухну зямную кулю.

Гэтыя босыя ногі Генадзя Аўсянікава, як зразумеў я, германскую журналістку — тэатралку куды як спрактыкаваную — проста ўразілі. Не само тое, што артыст хадзіў і бегаў перад публікай неабуты. Пры сённяшняй свабодзе нораваў у цывілізаваным свеце еўрапеец і амерыканец не дужа здзівяцца, і спаткаўшы на вуліцы найсучаснага горада мужчыну ці жанчыну галяком. Але ніколі не бачыла яна, каб акцёр у вобразе так відочна адчуваў голымі пятамі і пальцамі ўяўленую зямлю пад сабой — як сапраўдную, жывой, цёплай, духмянай.

— У нас у Германіі і ў іншых краінах, якія ведаю, нямала адменных майстроў самых розных амплуа, — пачуў я ад яе ў антракце. — Ды не ўяўляю, каб хто з іх мог быць гэткім жа арганічным, натуральным старым селянінам, як ваш сённяшні прэм'ер. На ролю чалавека, ногі якога звыклыя да паркету, выканаўцу ў нас знайсці няцяжка. На чалавека, які б свабодна, звыкла ступаў басанож па раллі ці ржышчы, — цяжэй...

Так атрымалася, апошнімі гадамі мне выпала там-сям па свеце падарожнічаць. У Германіі, у ЗША, у Польшчы пашанцавала бываць у тэатрах. Пачутае калісь з вуснаў заляцелай у Мінск з Берліна знаўцы тамтэйшай тэатральнай явы для мяне пацвердзілася.

Ад заснавальнікаў нашага купалаўскага з пакалення ў пакаленне перадаецца лепшым прадаўжальнікам традыцый тых легендарных цяпер мастакоў-волатаў запаветнае — адчуванне грунту, на якім тэатр паўстаў, пашана да каранёў, да крэўнага. І застаецца тэатр своеаблічным, самабытным, нацыянальным не толькі мовай. І ўзрушвае нечым такім, што можна ўбачыць толькі ў ім.

Таму сведчанне — і згаданае.

**Уладзімір МЕХАЎ**



*"Ідылія".*



*Ігар ДЗЯНІСАЎ у спектаклі "Ідылія".*

# МІЖ ТЫМ ЯК НА СЦЭНЕ...



*Рэжысёр Купалаўскага тэатра Уладзімір САВІЦКІ.*



*Сяргей КРАЎЧАНКА ў спектаклі "З нагоды мокрага снегу".*

Гэтых здымкаў вы на выставе не ўбачыце, — на той, што мае назоў "Фатаграфія з Мінска" і адкрылася 30 кастрычніка ў Галерэі сучаснага мастацтва дзякуючы пасрэдніцтву Інстытута Гётэ (менавіта Інстытут Гётэ, паказаўшы беларускія фотанабыткі сваім суайчыннікам, парупіўся давесці іх да нашых з вамі суайчыннікаў). Між тым Галіна Маскалёва і Уладзімір Шахлевіч бяруць там самы чынны ўдзел — ужо з партрэтамі, з серыямі, якія з'явіліся як успаміны дзяцінства або напружаныя фотароздумы пра дзень сённяшні. Тое, што вы бачыце — часцінка творчага супрацоўніцтва Галіны і Уладзіміра з Нацыянальным акадэмічным тэатрам імя Янкі Купалы. Здымкі спектакляў і людзей тэатра.

Тое, што на гэтых здымках, у спектаклях, магчыма, вы не заўважыце. Гэта можа быць аблічча чалавека з масоўкі або з нейкага адным фотамастакам вядомага пункту знятая сцэна — агульны план ці герой, суаднесены з дэкарацыяй, з мэбляй... Хто не ведае пра хуткаплынны, рухомы стан тэатральнага спектакля! Хто не ведае, што, маўляў, фотаздымак — нешта зусім супярэчлівае гэтай рухомасці ды хуткаплыннасці. Але як не ўзяць пад увагу, што здымкі — а ў выпадку з Галінай ды Уладзімірам гэта, напэўна, бясспрэчна, — утвараюць уласную рэальнасць. Да якой тэатр мае дачыненне і першаснае, і... другаснае. І перадусім якраз тым, што ўвага гледача ўтрымліваецца не рэжысёрскаю воляю, а нейкаю пазатэатральнаю цікавасцю да людзей і праяў знарочыста прафесійных — тэатральных... Я спынялася на тым, што менавіта фотамастакі ўдакладняюць любы спектакль. Я сутыкалася з тым, што яны, мастакі, яго часам дасканаляць. А надарылася, што на фотаздымках выяўляўся нейкі абсалютна выбітны тэатральны шэдэўр, між тым як на сцэне ўсё яшчэ не маглі вырашыць, перапрашаю, з кім гуляць і на чыім баку...

**Ж. Л.**



*Віктар ЛЕБЕДЗЕЎ у спектаклі "Гульня ў джын".*



*Зоя БЕЛАХВОСЦІК (Жулі), Георгій МАЛЯЎСКІ (Аронт), Ігар ДЗЯНІСАЎ (Эраст) у спектаклі "Нежанаты мнагажэнец".*



*"Курыца".*



*"Тры сястры".*



***5 кастрычніка коласаўцы ўрачыста адкрылі юбілейны, 70-ы тэатральны сезон. Да гэтага святочнага вечара яны сумесна з артыстамі Даўгаўпілскага драматычнага тэатра ладзілі імпрэзу "Сямёра працякоў у гасцях у Несцеркі" па матывах твораў Віталя Вольскага ды Яна Райніса. Развагі пра мінулы сезон і прагнозы на будучы прапануе крытык Юрась ІВАНОЎСКІ.***



# І СКАЖА ТОЕ, ШТО НАРОДЗІЦЦА?

Тэатр імя Якуба Коласа сёння знаходзіцца ў даволі складаным становішчы. Тое, што там адбываецца цяпер, ніяк не назавеш крызісам. Хутчэй за ўсё, пражываецца той пераходны (ды надзвычай супярэчлівы) этап, калі старое амаль аджывае, а новае яшчэ не нарадзілася. Здавалася б, выпускаюцца вельмі цікавыя па задуме (на жаль, не заўсёды ўдалыя па мастацкім выніку) пастаноўкі — што дазваляе мне вылучыць калектыў у шэраг першых па неардынарнасці ды смеласці, вынаходлівасці стылявых пошукаў, але ж узнікаюць сумневы: а ці заўсёды тыя пошукі і вынаходніцтвы кладуцца на ўнутраныя акцёрскія магчымасці, ці адпавядаюць стылю тэатра (традыцыйна-рэалістычнаму), які складваўся (дарэчы!) дзесяцігоддзямі? І яшчэ ўзнікае трывога: у тэатры адбываецца змена пакаленняў — адышлі ў нябыт пачынальнікі-карыфеі. З так званага старэйшага пакалення засталіся адзінкі. Іх наступнікі — Г. Маркіна, М. Цішачкін, Г. Дубаў, пакінуўшы незабыўны след у гісторыі беларускага мастацтва, таксама пайшлі ад нас. Найбольш плённа сёння працуе "сярэд-няе" пакаленне: Т. Кокштыс, Т. Шашкі-на, Л. Трушко, Я. Шыпіла, С. Акружная, Л. Пісарава ды іншыя. Творчыя здабыткі маладых куды больш сціплыя: сапраўды яскрава змог заявіць пра сябе хіба што Р. Шацько. Відаць, у гэтым многае залежыць ад рэжысуры, якая не вельмі спяшаецца "раскрыць" акцёра, а, хутчэй, імкнецца да ўласнага самавыяўлення (што, дарэчы, таксама не заганна).



Сёння ў коласаўскі тэатр прыйшла "новая" рэжысура, адкрыўшы крыху кансерватыўнаму віцебскаму гледачу іншыя плыні, жанры і стылі, зламаўшы пэўныя стэрэатыпы ўспрымання сцэнічнага відовішча, стэрэатып жыццепадобнага тэатра. І раптам Гогаль зусім нечакана стаў драматургам-абсурдыстам накшталт Мрожака ці Іянэскі. А шэкспіраўскія героі выйшлі ў сучасных касцюмах.

Для мяне былі надзвычай цікавымі і хвалюючымі знаёмствы з "Цыркам Шардамам" (своеасаблівым апаэтызаваным Хармсам, нібы прапушчаным праз прызму светаадчування Марка Шагала), а пасля — рух у яшчэ больш нязведанае — ў экзістэнцыялізм стваральніка п'есы "Непаразуменне" Альбэра Камю.

Яго стыль увасабляе ўся сістэма выяўленчых сродкаў, але вызначальным з'яўляецца прынцып акцёрскага існавання. Тут ёсць значнае адрозненне ад стылю гульні ў традыцыйным псіхалагічна-побытавым тэатры. Тут пэўная зафіксаванасць псіхічных станаў, вонкавая статыка, якая раптам выбухае імпульсіўнай успышкай, рэзкай дынамічнай рэакцыяй. А потым — ізноў унутраная заглыбленасць на мяжы псіхааналізу. Вялікую ролю ў мастацкім вырашэнні спектакля адыграюць "зоны маўчання", "унутраныя маналогі", якія набываюць (у параўнанні з псіхалагічна-побытавым тэатрам) зусім іншую якасць. З акцёрскіх работ трэба найперш вылучыць Маці ў выкананні заслужанай артысткі Беларусі Тамары Шашкінай. Тут знойдзеш моц драматычнага напалу, адпаведную хіба што антычнай трагедыі. І трэба падзівіцца, чаму актрыса такога ўзроўню, такога класа доўгія гады не выходзіла на сцэну



нават у эпізадычных ролях.

Тамара Кабяк (Марта) не заўсёды вытрымлівае псіхалагічны цяжар, што выпаў на лёс яе гераіні. Тады словы, фразы, рэплікі губляюць сваю ўнутраную повязь, знікаюць псіхалагічныя матывіроўкі (асабліва гэта адчуваецца ў другім акце). Між тым яе гераіня нясе асноўную сэнсавую нагрузку спектакля. Менавіта яна — галоўны носьбіт свядомасці абсурду, і не толькі сама вызваляецца ад жыццёвых ілюзій, марных спадзяванняў на райскае іншабыццё ў сонечнай краіне, але і сее бязвер'е ў душах іншых. Па сутнасці, гэта вельмі моцны характар. І актрысе ў асноўным удаецца паказаць гэтую моц у амаль фанатычнай барацьбе за сваё адваяванае шчасце.

Героі жывуць сваім унутраным светам, які пэўным чынам трансфармуецца ў іх маналогах-споведзях, замаруджанасці паводзін, у змрочнай, трывожнай атмасферы спектакля, якую значным чынам адцяняюць пластычна-прасторавае вырашэнне і нечакана-кантрастны прыём "адкрытай" тэатральнасці.

Рэжысёр Ю. Лізянгевіч змяшчае і герояў спектакля, і яго гледачоў у "замкнёную", быццам агароджаную прастору: кожны з іх альбо з нас мусіць зрабіць выбар, адшукаць выйсце з існасці-тупіка. Глядзельная зала робіцца нібы працягам сцэнічнай "клеткі", утворанай з плеценых вяровак (мастак А. Пронін). Для гэтага рэжысёр "сціскае" памеры глядзельнай залы і ставіць пасярод яе своеасаблівы "подыум", дадатковую гульневую пляцоўку — люстраны адбітак сцэнічнай "клеткі" (тыя ж вяроўкі). Па-другое, праходы залы таксама "абжываюцца" персанажамі спектакля. Прыём аб'яднання сцэнічнай пляцоўкі і глядзельнай залы — прынцыповы для стылю спектакля. Гэтак жа, як і прыём адкрытай тэат-ральнасці, увасоблены ў вобразе Слугі (Г. Дубаў). Вобраз-знак. Ён сімвалізуе сабой ці то Бога, ці то антычны Рок, ці то іншую вышэйшую волю, якая кіруе гэтым светам, распараджаецца лёсамі зямных істот. Але перад намі Бог-блазен, клоун-паяц. Ён выходзіць на сцэну пад бадзёрліва-цыркавую музыку і пляскае ў далоні, весела насміхаючыся з жыццёвага балагану.

Спектакль "Пакрыўджаныя" па матывах твораў Л. Родзевіча асабіста мне нагадаў стыль некаторых пастановак Валерыя Мазынскага. Прыкладам, "Сымона-музыкі", "На дарозе жыцця", "Званоў Віцебска". Прынамсі, тых, дзе вялікую ролю адыгрывала не жыццёвае падабенства, а паэтычны сімволіка-асацыятыўны шэраг. Пастаноўка Антона Грышкевіча, здаецца, нават перагрувашчана метафарамі. Але гэта адзнака стылю спектакля. Рэжысёр здолеў разгледзець у амаль бытавой п'есы глыбінны паэтычны ды філасофскі падтэкст, здолеў узняць яе змест да пафасу рамантыка-філасофскай прыпавесці аб душы беларускага народа, аб яго раз'яднанай свядомасці, што ўвабрала ў сябе з аднаго боку паганства, з другога — хрысціянства.

У пластычна-прасторавым вырашэнні спектакля (мастак А. Салаўёў) акцэнтуюцца два моманты, так бы мовіць, дзве вобразныя дамінанты. Першая: гэта выявы ці то паганскіх ідалаў, ці то хрысціянскіх святых. А мо гэта твары нашых далёкіх продкаў, што з сівой далечыні стагоддзяў моўчкі ўзіраюцца ў нас? Другі момант: кола. Героі нібы існуюць у замкнёным коле, да таго ж падзеленым на дзве паловы. Расколатае кола, відаць, сімвалізуе разарваную душу беларуса, яго раз'яднаны ўнутраны свет. Каб глыбей замацаваць гэты вобраз (а таксама прывесці спектакль у рамантычна-філасофскі план), рэжысёр дадае да драматычнага шэрагу пластычныя сцэны, якія таксама маюць сваю распрацаваную драматургію і сімвалізуюць, відаць, унутранае хараство, цэльнасць душы старажытнага беларуса, якая праявілася ў яго злучэнні з прыродай.

Тры галоўныя героі — майстар Тодар (А. Лабанок), яго дачка Ульяна (Т. Ліхачова), яе каханы Піліп (Р. Шацько) — амаль што архетыпы. Тры пакутныя душы, што цягнуцца — кожная да сваёй мэты, да сваёй мары, свайго Бога. Іх душы не маюць спакою, прагнуць святасці, ачышчэння ад зямных грахоў, жаданняў, памкненняў. Іх спапяляе паганскі агонь. Толькі ў фінале спектакля яны, здаецца, адчуюць подых вечнасці...

"Вялікая сумная рыбіна, якая чакае" — апошняя прэм'ера коласаўцаў. Аўтар п'есы, рэжысёр-пастаноўшчык, сцэнограф і выканаўца галоўнай ролі — мастацкі кіраўнік тэатра Валерый Маслюк.

Спектакль закранае сучасныя і, так бы мовіць, пазачасавыя праблемы. Мараль, мастацтва, палітыка, каханне. Розныя пласты жыцця, розныя формы свядомасці дзіўным чынам перакрыжоўваюцца і ўзаемадзейнічаюць.

Дзеянне адбываецца ў псіхіятрычнай лячэбніцы (узнікаюць асацыяцыі-паралелі з ранейшай пастаноўкай В. Маслюка ў Магілёўскім аблдрамтэатры — "А хтосьці выпаў з гнязда..."). Сюды абсалютна выпадкова, па нейкай недарэчнасці трапляе малады юнак (А. Віктараў). Паміж ім і ўрачом-псіхіятрам (В. Маслюк) зараджаецца ці то сяброўства, ці то яднанне душ. Зрэшты, сустрэліся дзве адметныя асобы, пазначаныя дарам боскага натхнення: абодва паэты (іх вершы складаюць лірычны пласт спектакля). Яны — творчыя натуры (не толькі па сваім паэтычным захапленні, патрэбе душы, унутранай самарэалізацыі, але і па светаадчуванні). А значыць — не такія, як бальшыня. Яны — супрацьвага безаблічнаму быдлу, сытаму мяшчанству, што дбае толькі пра долары-марачкі. А яны — не такія. Юнак піша вершаваныя споведзі, чуе ўнутраныя галасы, яго дарослы сябар размаўляе, насуперак усім, на роднай мове. Побач — бруд, а яны прагнуць ачышчэння. І ў героя В. Маслюка цепліцца мара: уцячы адсюль у мясціны свайго дзяцінства, на бераг роднага возера, сустрэць вялікую сумную рыбіну. У спектаклі ёсць пэўная недагаворанасць. Асабліва гэта датычыць узаемаадносін паміж мужчынам і хлопцам. Паводле Фрэйда. у мужчын пэўнага ўзросту прачынаецца цяга да юнакоў. Гэта своеасаблівая форма нарцысізму. Проста чалавек імкнецца "схапіць" страчанае: вярнуцца ў сваю маладосць, да сябе самога, але больш дасканалага, прыгожага. Любоў да юнака — гэта як бы пераўвасабленне ў свайго двайніка (матыў, што гучаў у спектаклі В. Маслюка "Закон вечнасці").

Як мне здаецца, п'есе, а, значыць, і спектаклю, не хапіла значнай унутранай дынамікі, хоць праблематыка і падзейны шэраг быццам вымагалі яе. Не хапае драматычнай напружанасці: усё быццам патанае ў маналогах і дыялогах. Калі ж герой знаходзіцца ў дысгармоніі з грамадствам, знешнім светам, то тут наогул патрабуецца трагедыя (прыгадаем "Рагатку" Р. Вікцюка — спектакль, у нечым роднасны "Рыбіне"). Усё занадта прыгладжана, затушавана. Не хапае выбуху.

Вельмі расцягнута першая дзея, а другая, наадварот, празмерна сціснута. Занадта абмежавана прасторавае поле спектакля: толькі вялікі ложак і мноства вісячых мікрафонаў: не хапае распрацаванага вобразна-паэтычнага пласта. І, як вынік, узнікае адчуванне, што жыццёва-верагодны тэатр "паглынае" паэтычна-аўтарскі. Здаецца, форма спектакля ўвогуле не з'яўляецца істотнай для рэжысёра. Акцэнтуецца толькі праблематыка, нават характары і сюжэт перададзены пунктырна. Так бы мовіць, спектакль-"выплеск", спектакль-эмоцыя.

Новы сезон абяцае стаць не менш цікавым для тэатра. Ужо ў кастрычніку гледачы сутрэнуцца з народнай артысткай Беларусі Святланай Акружной у спектаклі "Рэцэпт Макропуласа" К. Чапека (пастаноўка М. Пінігіна). Рэжысёр Ю.Лізянгевіч працуе адразу над дзвюма пастаноўкамі. У лістападзе чакаецца прэм'ера спектакля "І паміраючы дрэвы стаяць" па п'есе Іспанскага драматурга А. Касоны з чароўнай Зінаідай Канапелькай у адной з галоўных роляў. А ў лютым 1996 года на суд гледачоў будзе вынесена прэм'ера "Дядзькі Вані" А. Чэхава. Антон Грышкевіч працуе над спектаклем для дзяцей. Гэта п'еса японскага драматурга, лаўрэатаў Нобелеўскай прэміі Дзюндзі Кінасіта "Жураўлінае пер'е". Валерый Маслюк адкрывае для сябе творчасць М. Гогаля ў спектаклі "Жаніцьба". На эксперыментальнай (камернай) сцэне акцёры працуюць над самастойнымі работамі: для Л. Антосевай гэта п'еса нямецкага драматурга П. Хакса "Размовы ў доме Штайн пра гера фон Гётэ, якога ў гэты час няма дома", а для М. Краснабаева — спектакль па матывах твораў У. Караткевіча "Вераб'іная ноч". Хутка глядач убачыць адноўлены монаспектакль "Нічога, нічога, маўчанне"... паводле аповесці М. Гогаля "Запіскі вар'ята" з А. Лабанком у ролі Папрышчына.

Але, бадай, самай адметнай падзеяй новага сезона з'явіцца фестываль "Духоўная энергія тэатра", які тэатр імя Якуба Коласа правядзе ў лістападзе сумесна з Віцебскім аддзяленнем фонду Сораса. У Віцебск запрошаны раман Вікцюк і Эймунтас Някрошус з новымі спектаклямі, выдатныя тэатразнаўцы, вучоныя, якія займаюцца пытаннямі энергетыкі тэатра.

**Юрась ІВАНОЎСКІ**

*г. Віцебск*

*На здымках: Г. Шкуратаў (Ян) і Т. Шашкіна (Маці) у спектаклі "Непаразуменне" А. Камю; сцэна са спектакля "Пакрыўджаныя" Л. Родзевіча; А. Віктараў (Ён) і В. Маслюк (Доктар) у спектаклі "Вялікая, сумная рыбіна, якая чакае" В. Маслюка.*

*Фота С. Кохана*

